*Василь Быков и Александр Солженицын. Историю одного навета читайте на 4-й стр.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**№ 89 (4444)**

12 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Мікалай СУША: «Ідуць нейкія закулісныя гульні…»

*Рэктар Мінскага інавацыйнага ўніверсітэта распавёў «Народнай Волі» пра забастоўку студэнтаў, дваццаць восем гадоў амаль бездакорнай працы і сённяшнюю пазіцыю Міністэрства адукацыі.*

Учора зранку некалькі соцень студэнтаў гэтай прыватнай навучальнай установы аб’явілі забастоўку. Яны пратэставалі супраць таго, што ВНУ не працягнулі акрэдытацыю па пяці спецыяльнасцях – «Правазнаўства», «Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве», «Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій», «Транспартная лагістыка» і «Псіхалогія». Маладыя людзі былі занепакоены тым, што могуць застацца без дыпломаў…




– Нягледзячы на тое, што зранку моладзь сабралася, каб абмеркаваць праблему, вучэбны працэс працягваецца, – кажа Мікалай Васільевіч. – І зараз усе на сваіх месцах – і студэнты, і выкладчыкі.

**– Міністр адукацыі Мікалай Карпенка, каментуючы гэтую сітуацыю, заявіў, што, маўляў, студэнтам вашага ўніверсітэта не варта хвалявацца, яны змогуць працягнуць адукацыю ў іншых ВНУ па сваіх спецыяльнасцях з наступнай выдачай дыплома дзяржаўнага ўзору.**

– Некаторыя нашы студэнты ўжо праз два месяцы павінны атрымаць дыплом, і я як рэктар ВНУ не ведаю, каго, куды і якім чынам будуць пераводзіць і выдаваць дыпломы. Што за такі час можна паспець?

Зрэшты, пра гэта рана казаць, бо, паводле дзеючага заканадаўства, у нас ёсць тры дні, каб падрыхтаваць пярэчанні на дзеянні камісіі, якая займалася акрэдытацыяй.

12 лістапада якраз і збіраемся іх перадаць у Дэпартамент кантролю якасці адукацыі. Нашу заяву затым павінны разгледзець на працягу двух тыдняў. А затым пабачым, як будзе складвацца сітуацыя.

**– Той жа Карпенка вам таксама парэкамендаваў «паглыбіцца ў сутнасць рэкамендацый камісіі, ліквідаваць выяўленыя недахопы і арганізаваць адукацыйны працэс у адпаведнасці з нормамі заканадаўства»...**

– Няхай ён прыедзе і ўкажа на сур’ёзныя недахопы, а я займуся іх выпраўленнем. А пакуль я не бачу недахопаў, якія з’яўляліся б падставай, каб адмовіць ВНУ ў акрэдытацыі. У заключэнні камісіі пра гэтыя недахопы не сказана, там ёсць толькі дробныя заўвагі, якія трэба выправіць.

**– Напрыклад?**

– Напрыклад, кажуць, што, маўляў, на вучэбных праграмах няма візы загадчыцы бібліятэкі альбо што мы не маем права ставіць у дыпломы пячатку з гербам, хаця на самай справе кіруемся адпаведнай пастановай Савета міністраў…

Дарэчы, упершыню за ўсю гісторыю існавання ўніверсітэта нас не азнаёмілі з высновамі камісіі, якая займалася пытаннем акрэдытацыі. І гэта вельмі дзіўна!

**– Наколькі вядома, 28 гадоў ВНУ працавала і праходзіла акрэдытацыю без асаблівых праблем…**

– Мы акрэдытоўваліся больш за 80 разоў! Так, да нас былі нейкія заўвагі, але мы іх хутка выпраўлялі, а затым атрымлівалі акрэдытацыю. А сённяшняя сітуацыя такая, што даводзіцца казаць ужо пра нейкія закулісныя гульні ў дачыненні да прыватнай навучальнай установы.

**– Якія вашы дзеянні ў бліжэйшы час?**

– Як ужо казаў, перададзім нашы прэтэнзіі ў Дэпартамент кантролю якасці адукацыі. Калі і там не атрымаем станоўчага для сябе выніку, то будзем апратэстоўваць рашэнне праз суд.

Таксама варта адзначыць, што пасля забастоўкі студэнтаў ва ўніверсітэт наведаліся прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, у мяне была з імі размова. 12 лістапада яны ў нашай ВНУ сустрэнуцца са студэнтамі і адкажуць на іх пытанні.

**Алесь СІВЫ.**

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

## Каб у 600 бібліятэках была «Народная Воля»!

Не сакрэт: з-за мізэрных пенсій, невысокіх заробкаў многія людзі не маюць магчымасці падпісвацца на перыядычныя выданні. Ужо працяглы час назіраецца такая тэндэнцыя – расце колькасць грамадзян, якія, каб пачытаць газеты, ідуць у публічныя бібліятэкі. Зыходзячы з гэтага, рэдакцыя «Народнай Волі» ў канцы мінулага года разгарнула кампанію па зборы сродкаў для таго, каб **600** бібліятэк нашай краіны змаглі рэгулярна атрымліваць «Народную Волю». Водгукі, якія да нас даходзяць, самыя станоўчыя. Людзі з невысокім дастаткам удзячны нам і ўсім ахвярадаўцам за такі дабрачынны крок, кожны нумар газеты чакаюць з вялікім нецярпеннем.

І вось ужо поўным ходам ідзе падпіска **на першую палову 2020 года,** і нам нельга пакінуць бібліятэкі без «Народнай Волі» **у студзені–чэрвені.** На жаль, з уласнымі фінансамі ў рэдакцыі вялікі дэфіцыт (ад дзяржавы не маем ніякіх прэферэнцый). Таму мы аб’яўляем чарговую дабрачынную акцыю па зборы фінансавых сродкаў, з тым каб і ў наступным годзе **600** публічных бібліятэк атрымлівалі «Народную Волю». Але на гэты раз ахвяраванні вырашылі збіраць не праз краўдфандынг, а непасрэдна праз разліковы рахунак рэдакцыі.

Дапамажыце, калі ласка, – з такой мальбой звяртаемся да ўсіх, хто мае магчымасць працягнуць руку дзеля гэтай высакароднай справы. Вядома ж, перш-наперш наш зварот да кіраўнікоў бізнес-кампаній, фірм, прадпрымальніцкіх структур. У вырашэнні надзвычай важнай «бібліятэчнай праблемы» можаце ўзяць удзел не толькі вы самі, але і вашы супрацоўнікі. Заўважым: каб аформіць падпіску на «Народную Волю» на першую палову 2020 года для **600** публічных бібліятэк, неабходна сабраць каля **36.000** рублёў. Рады будзем ахвяраванням у любым памеры. Рэквізіты для пералічэння грошай (*з адзнакай «Падпіска для бібліятэк»*):

**Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «Народная Воля»**

**220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**банкаўскія рэквізіты:**
**р/р BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**у «Прыёрбанк» ААТ, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Адначасова хочам адзначыць: выказваючы шчырую ўдзячнасць усім патэнцыйным ахвярадаўцам, рэдакцыя газеты «Народная Воля» заўжды гатова наладзіць з вамі самыя цесныя стасункі. Рады будзем бачыць вас у нашым офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34а. Кантактны тэлефон – 8-017-328-68-71.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

СЛЫШАЛИ?

## В отношении Александра Дзядзько уголовное дело прекращено

*Однако именитого медика привлекли к административной ответственности.*

Информация о задержании лауреата Государственной премии Беларуси, заведующего отделом анестезиологии, реанимации и интенсивной терапии Минского НПЦ хирургии, трансплантологии и гематологии **Александра Дзядзько** *(на фото)* появилась в мае этого года. Тогда в Следственном комитете «Народной Воле» сообщили, что *«возбуждено и расследуется уголовное дело в отношении Александра Дзядзько по фактам получения взяток от представителей коммерческих структур за решение вопросов, входящих в его компетенцию… с задержанным работают следователи, проводятся необходимые процессуальные действия»*.



Правда, через несколько дней мера пресечения в отношении Дзядзько была изменена на подписку о невыезде, Александр Михайлович вышел на работу. Тогда же стало известно, что Дзядзько отпустили под личное поручительство: с письмом о том, что профессор нужен на рабочем месте, в следственные органы обратился руководитель центра **Олег Руммо**. Как известно, Александр Дзядзько был в команде врачей, которые в 2008 году под руководством Руммо впервые в Беларуси выполнили операцию по пересадке печени. Александр Дзядзько, к слову, в медицине 36 лет, более 20 лет назад, в 1998-м, он стал заведующим отделением анестезиологии 9-й городской больницы Минска.

Что же касается уголовного дела в отношении Дзядзько, то, как выяснилось, статья о получении взятки была переквалифицирована на другую статью – «получение незаконного вознаграждения». Позже производство по этому уголовному делу по ходатайству Дзядзько было прекращено. Такая возможность предусмотрена статьей 30 Административного кодекса: прокурор или следователь с согласия прокурора вправе прекратить производство по уголовному делу и освободить лицо от уголовной ответственности в связи с некоторыми обстоятельствами, среди которых применение мер административного взыскания.

В Следственном комитете «Народной Воле» сообщили: *«Действия обвиняемого Дзядзько А.М. были окончательно квалифицированы по ч.1 ст.433 УК Республики Беларусь и по его ходатайству, с согласия заместителя Генпрокурора уголовное дело было прекращено по нереабилитирующим основаниям с привлечением фигуранта к административной ответственности»*.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ВІЗІТ

## З Усходу – на Захад

Адразу пасля прыбыцця з Аб’яднаных Арабскіх Эміратаў Аляксандр Лукашэнка адбыў з афіцыйным візітам у Аўстрыю. Гэта першы падобны візіт з моманту ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі 27 гадоў таму.

Адначасова ў Вене праходзіць бізнес-форум, у якім бяруць удзел дзелавыя колы дзвюх краін, уключаючы прадстаўнікоў буйнога бізнесу. Чакаецца, што па выніках форуму будуць падпісаны пагадненні на 250 мільёнаў еўра.

Дарэчы, па выніках 2018 года тавараабарот паміж Беларуссю і Аўстрыяй склаў 171,4 мільёна долараў. У студзені–верасні 2019 года тавараабарот дасягнуў 131,5 мільёна (109,2% да аналагічнага ўзроўню мінулага года).

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Кредитный бум – драйвер или могильщик экономики?

Белорусское правительство в ускорении роста ВВП возлагает большие надежды на увеличение потребительского спроса. Произведенная продукция должна найти своего покупателя, в том числе среди населения. Поэтому увеличение зарплаты и потребительский кредитный бум – аккурат в тренде. Кредитный бум наблюдается уже года три. Белорусы задолжали банкам на 1 октября текущего года 13,3 млрд рублей, что составило 11% к ВВП. Из них задолженность по кредитам на потребительские нужды составила примерно 38%, а по жилищным кредитам (кредитам на финансирование недвижимости) – остальные 62%. Кредитные долги физических лиц взяли планку в 10 млрд рублей в июне прошлого года, а уже в ноябре составляли 11 миллиардов. Только за последние месяцы 2019 года задолженность населения по кредитам увеличилась на 11%. Правда, за такой же период прошлого года она выросла на 15%. В годовом измерении потребительские кредиты приросли на 23,6%. Как видим, эти темпы не сравнить с ростом даже номинальной зарплаты в Беларуси. Они почти в два раза выше.

Нацбанк, естественно, отслеживает эту ситуацию, оценивает кредитные риски и пошел на некоторые ограничительные меры, снизив еще в мае прошлого года коэффициент долговой нагрузки с 0,5 до 0,4. Иначе говоря, ежемесячный платеж кредитополучателя не должен превышать 40% его чистых доходов (всего доходов за вычетом платы за услуги ЖКХ, платежей за ранее взятые кредиты и т.п.). Кредитный риск состоит в том, что люди могут не рассчитать свою платежеспособность, потерять в зарплате или потерять вовсе работу в связи с экономическим или личным кризисом. А потом, как говорят: жадность фраера сгубила. Для государства кредиты – это скрытое впрыскивание денег в экономику в надежде поднять ВВП за счет роста внутреннего спроса.

Сегодня драйвером рынка потребительских кредитов являются банковские займы на приобретение легковых автомобилей. Только за полгода было реализовано 29,9 тысячи авто. Государство идет навстречу производителю белорусских «Джили», обеспечивая наивыгоднейшие условия покупки этого автомобиля в кредит в банках. Ведь надо гарантировать и стимулировать сбыт растущего выпуска белорусско-китайских авто своим гражданам.

Еще в большей мере на игле потребительских кредитов сидит российская экономика. Если в Беларуси реальные доходы населения растут, то в России они падают. А его задолженность по кредитам растет на 22–24% ежегодно. На одного жителя России приходится 964 доллара кредитов на потребительские нужды и 734 доллара ипотечных. В Беларуси эти показатели существенно ниже: соответственно 350 долларов и 390 долларов. Но это не значит, что нам не о чем беспокоиться. Кредитные ставки белорусских банков выше, чем у российских. У Банка России ключевая ставка – 7,25%, у Нацбанка – 9,5%. А средняя зарплата россиян повыше белорусской. Если наша превысила 1100 белорусских рублей, то российская достигла 1600 белорусских рублей в пересчете. К тому же кредиты в России более долгосрочные. Поэтому денежным властям Беларуси тоже есть о чем задуматься.

Тем не менее в России банковские кредиты имеют 54% занятого населения. Две трети из них имеют необеспеченный кредит или задолженность по кредитным картам – то есть оплачивают банковскими займами текущие расходы, на которые недостает зарплаты. Почти каждый второй кредитополучатель имеет задолженности по другим кредитным продуктам, привлекает новые кредиты для погашения старых. Каждый третий заемщик, имея ипотеку, берет еще и необеспеченный кредит на потребительские нужды.

Кредиты населению, повышая его покупательную способность, могут стать драйвером роста совокупного спроса в стране и увеличения ВВП, которое так необходимо что России, что Беларуси. Но вдруг, как это не раз бывало, наши экономики тряхнет кризис, а это приведет в свою очередь к всплеску необслуживаемых кредитов и подорвет банковскую систему? Вспомним, как валились в 2008–2009 годах по этой причине могучие ипотечные банки США. Когда мировой банковский кризис, порожденный в США в эти годы, добрался до России, Путин в приказном порядке на время запретил банкам взыскивать с неплатежеспособных кредитополучателей долги, объявив соответствующий мораторий. Белорусские власти, кстати, на это тогда не пошли. Так что кредитный бум может как подхлестнуть экономику, так и похоронить ее. Здесь центробанкам и правительствам глядеть надо в оба.

ДЭБАТЫ

## «Мой заробак суразмерны аб’ёму працы…»

*Некаторыя дэбаты кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў на тэлеканале «Беларусь 3» атрымаліся досыць цікавымі і далі магчымасць хоць у нейкай ступені высветліць погляды і настроі патэнцыяльных дэпутатаў.*

На тэледэбаты прыйшлі двое з чатырох кандыдатаў па Гомельскай-Савецкай выбарчай акрузе №34: актывістка руху «Маці 328» **Таццяна Канеўская**, якую вылучыла Аб’яднаная грамадзянская партыя, і начальніца галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама **Ірына Даўгала**.

Незадоўга да публічных спрэчак у мясцовай газеце былі надрукаваны звесткі пра даходы кандыдатаў за 2018 год. Аказалася, што Даўгала мае самы высокі даход сярод гомельскіх прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат – 43,6 тысячы рублёў у год, альбо 3637 рублёў на месяц. У яе перадвыбарнай праграме нічога не гаворыцца пра дзяржаўную ідэалогію, затое кандыдат смела бярэ на сябе адказнасць за аднаўленне «даўгабудаў», будаўніцтва школ, садкоў і нават лазні, выступае за *«стварэнне высокапрадукцыйных працоўных месцаў, якасную высокатэхналагічную медыцыну, сучасную адукацыю для моладзі»*.

Падчас дэбатаў Таццяна Канеўская выказала сумнеў, што чалавек з даходам 3,6 тысячы рублёў у месяц можа зразумець праблемы людзей, якія зарабляюць 300 рублёў.

*«Мой заробак суразмерны таму аб’ёму працы і адпаведна той ступені адказнасці, якую я нясу як кіраўнік такога ўпраўлення»*, – адказала Даўгала.

Яна пераконвала тэлегледачоў, што можа працаваць *«абсалютна прафесійна ў нашым парламенце»*, бо мае прафесійны і жыццёвы досвед.

Таццяна Канеўская заявіла, што ідзе ў парламент як прадстаўніца ад народа: *«Зразумець, што народу трэба, можа толькі сам народ»*. Паводле яе меркавання, прынятыя нядаўна парламентам законы пра дармаедства, павышэнне пенсіённага ўзросту, дэкрэт па артыкуле 328, антыкарупцыйны дэкрэт – не ў інтарэсах народа.

Ірына Даўгала запыталася ў актывісткі руху «Маці 328», што яе цікавіць, апроч барацьбы з наркотыкамі, і якім чынам яна наважана вырашаць розныя іншыя пытанні.

*«Я дваццаць тры гады працавала ў сферы культуры,* – патлумачыла Канеўская. – *У мяне дастаткова досведу і жадання, каб нашу культуру ўзняць на той узровень, на якім яна павінна быць»*.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*(Працяг тэмы на 2-й стар.)*

